Інфармацыйны бюлетэнь • № 7-8/98 •

# Каталіцкія НАВІНЫ

ВЫДАННЕ МІНСКА-МАГІЛЁЎСКАЙ АРХІДЫЯЦЭЗІІ РЫМА-КАТАЛІЦКАГА КАСЦЁЛА



**ЯН ПАВЕЛ II:**

## НЯДЗЕЛЯ – ДЗЕНЬ РАДАСЦІ І САЛІДАРНАСЦІ

***У апошнім маім апостальскім лісце "Dies Domini" я між іншым адзначыў, што нядзеля, якая звычайна ўспрымаецца як дзень адпачынку, павінна быць таксама днём радасці і салідарнасці.***



Дзень радасці! Ці можна запланаваць радасць? Ці не залежыць гэтае пачуццё ад радасных альбо смутных акалічнасцяў жыцця? Насамрэч, сапраўдная хрысціянская радасць не абмяжоўваецца толькі летуценным пачуццём: яе асновай з'яўляецца любоў, якую Бог аб'яўляе нам праз смерць і змёртвыхпаўстанне свайго Сына. Гэтая перакананасць дае нам сілу жыць і спадзявацца. Сваім жыццём святыя сведчаць, што нават ва ўмовах фізічнага і духоўнага цярпення мы можам адчуваць асабістую, невыказную радасць, калі ведаем, што нас атуляе любоў Бога. Нядзеля – гэта менавіта той дзень, які дапамагае нам наноў адкрываць глыбокія карані радасці.

З другога боку, сапраўдная радасць не можа быць выключна індывідуальным перажываннем, ёю трэба дзяліцца і ўдзельнічаць у радасці іншых. Нядзеля для веруючых і для хрысціянскіх сем'яў павінна стаць днём, у які перажываецца больш моцная еднасць з бліжнімі, калі адгукаемся на патрэбы тых, хто па розных прычынах мае клопаты. Гэтак нядзеля становіцца днём дзялення з іншымі. Запрасіць на абед адзінокага чалавека, ахвяраваць рэчы асабліва беднай сям'і, наведаць хворага альбо вязня, прысвяціць час таму, хто перажывае цяжкія хвіліны, – гэта толькі некаторыя з канкрэтных учынкаў, якія дапаможа зрабіць нядзелю днём салідарнага братэрства.

Гэтак перажываны Дзень Пана не толькі набудзе паўнату свайго сэнсу, але стане таксама "Dies Hominis" – Днём Чалавека, бо дапамагае ўзрастаць нашай чалавечнасці.

[...] Імша не заканчваецца ў сценах касцёла: яна з'яўляецца крыніцаю перамены жыцця кожнага дня, з'яўляецца "місіяй" і пасланнем пераказваць Добрую Вестку, а таксама пасланнем любіць.

*(З катэхезы 16 жніўня 1998г.)*

**У нумары:**







# Базыліка Меншая

**Апостальская Сталіца надала годнасць Базылікі Меншай трох святыням на Беларусі – катэдрам у Гродне і Пінску, а таксама санктуарыю Маці Божай Будслаўскай.**

Словам “базыліка” ў Рыме называлі пэўны від свецкіх будынкаў. Яны падзяляліся на паралельныя навы. Прастора будынка стварала



Касцёл у Будславе. Фота А.Кляшчука.

свайго роду “форум” – месца судовых працэсаў, публічнае месца альбо рынак пад дахам. Там размяшчаліся дзяржаўныя і грамадскія установы, там жа адбываліся рознага тыпу спатканні. Пасля абвяшчэння ў 313г. рымскім цэзарам Канстанцінам Вялікім (280–377) рэлігійнай свабоды хрысціяне пачалі выкарыстоўваць гэтыя будынкі для патрэбаў культу, а таксама будавалі ўласныя святыні, якія сваім выглядам нагадвалі свецкія рымскія пабудовы. Гэтыя святыні мелі выцягнутую прамакутную форму з дзвюма навамі. Сярэдняя нава была вышэйшая і, звычайна, больш шырокая за астатнія. Яе асвятлялі вокны, размешчаныя пад дахам ніжэйшых наваў. У гэтым стылі ў Рыме былі пабудаваны храмы св.Пятра, Маці Божай Большай (*Sancta Maria Maggiore*), св.Паўла за Мурамі, а таксама касцёл Нараджэння ў Бэтлееме.

З часам, каб падкрэсліць іх асаблівае значэнне, Базылікамі сталі называць важнейшыя святыні. Тытул Базылікі храм атрымліваў за адпаведную трывалую традыцыю альбо паводле дакумента Апостальскай Сталіцы. Таксама і цяпер тытул Базылікі надае Папа, нават калі архітэктура храма не нагадвае рымскіх Базылікаў. Існуюць Вялікія Базылікі і Меншыя.

Паняцце Базылікі Меншай з’явілася каля 100 гадоў таму. Яно непасрэдна звязана з тытулам Вялікая Базыліка”, які з XVIII ст. надаецца выключна патрыярхальным базылікам. Яго маюць рымскія святыні св.Яна Хрысціцеля на Латэране, Маці Божай Большай, св.Пятра ў Ватыкане, св.Паўла за Мурамі, св.Лаўрэна і два храмы ў Асізі – св.Францішка і Найсвяцейшай Марыі Панны Анельскай. Гэтыя Базылікі падначалены непасрэдна Папе, таму ў кожнай з іх знаходзіцца папскі трон і алтар, на якім можа служыць Літургію цэлебрант, упаўнаважаны Папам.



Катэдральны (былы езуіцкі) касцёл у Пінску.

Пасля Другога Ватыканскага Сабору Апостальская Сталіца выдала два дакументы, прысвечаныя Базылікам: Папы Паўла VI *De altaris Pontificii usu in Patriarchalibus Basilicis Romanis* і дэкрэт пра Базылікі Меншыя Кангрэгацыі абрадаў *De titulo Basilicae minorus*. Менавіта апошні дэкрэт акрэсліў умовы надання тытулу, а таксама абавязкі і прывілеі Базылікі Меншай.

Існуюць наступныя патрабаванні для таго, каб святыня магла атрымаць тытул Базылікі Меншай:

– храм павінен быць кансэкраваны; вызначацца веліччу, прыгажосцю і адпавядаць літургічным нормам (напр., мець павернуты тварам да людзей алтар, адпаведна размешчаны табернакул, хрысцільню, амбон і сядзенне для цэлебранта, а таксама адпаведныя тэалагічным нормам абразы і г.д.);

– Літургію трэба служыць у храме прыгожа, з свядомым і, па-магчымасці, поўным удзелам вернікаў, з удзелам міністрантаў, хору, а таксама асобы, якая кіруе ўдзелам вернікаў у Літургіі і падтрымлівае такі ўдзел;

– храм павінен мець дастатковую колькасць святароў, у т.л. спаведнікаў, якія спавядаюць у вызначаны час;

– у дыяцэзіі святыня павінна адыгрываць асаблівую ролю, напр., з-за знаходжання там рэліквій святога, слаўнага ласкамі абраза альбо з-за гістарычнай падзеі, якая мела асаблівае значэнне для дыяцэзіі;

– святыня павінна кардынальна ўплываць на ажыўленне рэлігійнага і душпастырскага жыцця ў дыяцэзіі.

На Базыліку Меншую таксама ўскладаюцца абавязкі:

– на парафіяльнай тэрыторыі Базылікі трэба клапаціцца пра рэлігійнае выхаванне вернікаў з дапамогай не толькі частых навучанняў, казанняў, але і курсаў, фармацыйных спатканняў і г.д.;

– пашыраць і папулярызоўваць папскія дакументы, асвятляючы думку і вучэнне Святога Айца;

– урачыста адзначаць свята катэдры св.Пятра 22 лютага, урачыстасць св.Пятра і Паўла 29 чэрвеня, а таксама гадавіну выбару Папы;

– часам, напр., у якое-небудзь свята, Св.Імшу неабходна служыць на лацінскай мове, чытаную і з грыгарыянскім спевам ці рэлігійнай поліфоніяй;

– размясціць на франтоне Базылікі сімвалы Папы альбо Апостальскай Сталіцы.



Фарны (былы езуіцкі) касцёл у Гродне. Фота Ю.Новікава.

Базылікі Меншыя маюць таксама прывілеі:

– вернікі на звычайных умовах могуць атрымаць поўны одпуст за наведванне Базылікі ў наступныя дні: ва ўрачыстасць св.апосталаў Пятра і Паўла, ва ўрачыстасць тытулу касцёла, у дзень Маці Божай Анельскай (2 жніўня), у іншы вызначаны дзень году;

– вернікі могуць маліцца "Верую" падчас Імшы для пілігрымаў альбо калі збяруцца групай;

– можна ўжываць папскія сімвалы (скрыжаваныя ключы і ціяра) на харугвах для працэсій, літургічных шатах і пячатцы Базылікі;

– рэктар Базылікі можа накладаць на сутану ракету з чорнага шоўку з абшытымі краямі і з гузікамі рубінавага колеру.

***Кс.Станіслаў Паўліна fDP,***
*пробашч катэдральнай парафіі ў Пінску*

# ФІГУРА СВЯТОГА РОХА ВЯРНУЛАСЯ Ў МІНСКІ КАСЦЁЛ

У той дзень, 16 жніўня, хлопчык перад касцёлам раздаваў буклеты, на якіх вялікімі літарамі было напісана: *Sancte Roce, ora pro nobis* (Святы Роху, маліся за нас). Пад такой назвай выйшаў чарговы нумар "Парафіяльнага лістка", які выдаюць у парафіі Святой Тройцы.

Пра жыццё Роха вядома няшмат. Жыў ён у XIV-пачатку XV ст. Нарадзіўся ў Францыі, недалёка ад Марсэля. Яго імя паходзіць ад французскага слова "roche" – скала. З вялікім запалам і ахвярнасцю ён стаў служыць Богу і людзям. Раздаў усю сваю маёмасць і накіраваўся ў Рым. Туды ён не трапіў – затрымала эпідэмія чумы. Рох мужна і самаахвярна дапамагаў заражаным і за гэта Бог адарыў яго ласкай аздараўляць хворых. Тры гады прысвяціў будучы святы ахвярнай працы ў Рыме. На зваротным шляху на радзіму ён захварэў сам. І хоць аздараўляў іншых, хворы ён аказаўся непатрэбны людзям. Роха прагналі з шпіталю. Ён з цяжкасцю дабраўся да бліжэйшага лесу. Паданне кажа, што ачуняць святому дапамог сабака, які штодня прыносіў бохан хлеба. І ўсё ж Роха чакала мучаніцкая смерць: памежныя вартаўнікі палічылі яго шпіёнам і доўга катавалі. Рох памёр у халодным і цёмным скляпенні.

Жыхары горада, дзе нарадзіўся св.Рох, забралі яго цела, а з 1485г. рэліквіі святога захоўваюцца ў Венецыі. Яго культ вельмі шырока распаўсюдзіўся па Еўропе, дасягнуў таксама і Беларусі. У Копылі, што недалёка ад Мінска, быў некалі санктуарый св.Роха. Шмат людзей прыходзілі туды маліцца і дзякаваць Богу за аздараўленні, прасіць заступніцтва ў Роха ў сваіх патрэбах. На жаль, у савецкія часы санктуарый быў знішчаны да самых падмуркаў.

Ужо некалькі стагоддзяў мінскія каталікі шануюць святога Роха як апекуна горада, заступніка ад хваробаў і эпідэмій. Драўляная фігура святога, якая яшчэ ў XIXст. была ў Святатраецкім касцёле, знікла ў нашым стагоддзі, таксама як і арыгінальныя арганы, каштоўны касцёльны посуд і святарскія аблачэнні. Але ў народзе жыла памяць пра св.Роха. Нават цяпер касцёл Св.Тройцы часцей называюць касцёлам св.Роха, бо гэты храм ужо паўтары стагоддзі з'яўляецца месцам асаблівага шанавання гэтага святога заступніка ў немачы.

Сродкі на аднаўленне фігуры (зроблена яна з металу, а выканаў яе скульптар Валяр'ян Янушкевіч) ахвяравала адна з сем'яў парафіі.

У свяце ўдзельнічалі амаль усе мінскія святары і вялікая колькасць вернікаў. У казанні кс.Ігар Лашук звярнуў увагу прысутных на прыклад св.Роха, прыклад шляху да святасці, які заключаецца ў практыкаванні дасканалай – чыстай і ахвярнай – любові да Бога і бліжніх.

Кожны з нас можа далучыцца да подзвігу св.Роха, калі будзе сваімі сціплымі сіламі дапамагаць хворым, старым, бедным, сіротам і такім чынам сведчыць Хрыстовую любоў і ласку, якую Ён мае для кожнага чалавека. У нашых сілах, напрыклад, удзельнічаць альбо падтрымліваць працу дабрачынных арганізацый (ёсць на Беларусі ў т.л. і каталіцкія – Caritas, Легіён Марыі, Фонд "Маці Божая Фацімкая"). Учынкі сведчаць пра веру.

***Ігар Іваноў***

# Нядзеля – Дзень Пана

**Пра неабходнасць святкаваць нядзелю нагадаў католікам Ян Павел II у апостальскім лісце "Dies Domini", апублікаваным у Ватыкане 7 ліпеня. У ім Папа ўказаў на тэалагічныя прычыны святкавання нядзелі, нагадаў вернікам пра патрэбу ўдзельнічаць у нядзельнай Святой Імшы і праводзіць нядзелю як вольны ад працы дзень.**

Папа заўважае, што нават у краінах, дзе святочны характар нядзелі гарантаваны заканадаўствам, "эвалюцыя грамадска-эканамічнай сітуацыі ў многіх выпадках прывяла да глыбокіх пераменаў у паводзінах людзей, а ў выніку – таксама ў характары нядзелі". Паўсюднай стала практыка "уікэнда" – штотыднёвага адпачынку. "На жаль, – піша Ян Павел II, – калі нядзеля губляе першасны сэнс і становіцца толькі "заканчэннем тыдня", часам здараецца, што кругагляд чалавека робіцца такім вузкім, што не дазваляе яму асягнуць "неба". Нават святочна апрануты, ён не здольны "святкаваць". У гэтым кантэксце Святы Айцец падкрэслівае: "ад вучняў Хрыста чакаецца, што яны не будуць падманваца адносна святкавання нядзелі, якая павінна быць сапраўдным усвячэннем Панскага дня, "заканчэннем тыдня", што прынцыпова лічыцца часам адпачынку і забаваў".

Аднак цэнтральным момантам нядзелі з'яўляецца Эўхарыстыя, пра што, здаецца, многія хрысціяне забыліся. Таму, на думку Папы, абавязковым ёсць "новае адкрыццё дактрынальных абгрунтаванняў, якія складаюць сутнасць касцёльнага прыказання, каб усе вернікі выразна ўсвядомілі неадменнасць нядзелі ў хрысціянскім жыцці".

Ян Павел II нагадвае, што дзень Пана вызначаў рытм усёй двухтысячагадовай гісторыі Касцёла, і адначасова заўважае, што "на парозе трэцяга тысячагоддзя святкаванне хрысціянскай нядзелі застаецца ключавым элементам хрысціянскай тоеснасці". Нядзельная цэлебрацыя (г.зн. святкаванне) Панскага дня і Эўхарыстыі знаходзіцца ў цэнтры касцёльнага жыцця, таму Ян Павел II нагадвае вернікам пра неабходнасць удзельнічаць у літургічнай супольнасці. "Вернік, – піша Папа, – калі ён не хоча саступіць націску асяроддзя, павінен шукаць апору ў хрысціянскай супольнасці". Таксама неабходна, каб ён усвядоміў ключавое значэнне нядзельнага зграмаджэння для яго жыцця ў веры: "Справай першачарговага значэння з'яўляецца ўсведамленне хрысціянамі, што немагчыма ўпоўні жыць вераю і ўпоўні ўдзельнічаць у жыцці хрысціянскай супольнасці, калі рэгулярна не прымаць удзелу у нядзельным эўхарыстычным зграмаджэнні".

Святы Айцец нагадвае католікам, што толькі вельмі сур'ёзная перашкода вызваляе ад абавязку ўдзельнічаць у нядзельнай Св.Імшы. Адначасова ўвага душпастыраў звяртаецца на тое, што яны павінны забяспечыць рэальную магчымасць удзельнічаць у Эўхарыстыі ўсім, а падчас Св.Імшы ў суботні вечар (якая з'яўляецца цэлебрацыяй нядзельнага ўспаміну Змёртвыхпаўстання) цэлебранты абавязаны казаць гаміліі і маліцца з вернікамі ў агульнай малітве. Ян Павел II навучае, што хоць радыё- і тэлетрансляцыі не дазваляюць выканаць нядзельны абавязак, але з'яўляюцца каштоўнай дапамогай для тых, хто не можа прыйсці ў касцёл.

Нядзеля павінна быць днём, вольным ад працы, таму Святы Айцец прыводзіць навучанне Льва XIII, які ў энцыкліцы "Rerum novarum" адзначыў, што святочны адпачынак – гэта права працоўнага чалавека, і дзяржава павінна гэтае права гарантаваць. Тым самым святкаванне нядзелі – справа не толькі вернікаў, бо яна тычыцца элементарных правоў чалавека: права на адпачынак, годнае жыццё і рэлігійную свабоду. "Таксама ў цяперашняй гістарычнай сітуацыі, – піша Ян Павел II, – мы абавязаны дзейнічаць так, каб усе маглі карыстацца свабодай, адпачынкам і палёгкай, якія неабходныя чалавеку з увагі на яго чалавечую годнасць, а таксама з увагі на звязаныя з ёй рэлігійныя, сямейныя, культурныя і сацыяльныя патрэбы, якія цяжка задаволіць, калі не гарантаваны прынамсі адзін вольны дзень у тыдні, які дае ўсім магчымасць супольнага адпачынку і святкавання". Хрысціянін павінен прыкласці намаганні, каб свецкае заканадаўства лічылася з абавязкам членаў Касцёла святкаваць нядзелю. Незалежна ад гэтага вернікі абавязаныя сумленнем так планаваць нядзельны адпачынак, каб яны маглі ўдзельнічаць у Эўхарыстыі, "устрымліваючыся ад працы і заняткаў, неадпаведных з прыказаннем святкавання дня Панскага". Сам жа адпачынак "павінен быць крыніцай духоўнага ўзбагачэння, забяспечваць большую свабоду, магчымасць для сузірання і павінен спрыяць братэрскай супольнасці". Гэтак дзень Пана становіцца таксама днём чалавека, – вучыць Ян Павел II. Нядзеля таксама павінна быць днём, у які вернікі змаглі б прысвяціць сябе справам міласэрнасці, харытатыўнай дзейнасці і апостальству.

## Эўхарыстыя – сэрца нядзелі

Эўхарыстычнай сустрэчы як сэрцу нядзелі прысвяціў Папа сваё разважанне перад малітвай Анёл Панскі 9 жніўня. "Нядзеля – гэта дзень, калі збіраецца ўся супольнасць, таму гэта таксама *Dies Ecclesiae*, дзень Касцёла", – сказаў Ян Павел II і заўважыў, што нядзельная Эўхарыстыя з'яўляецца "прывілеяваным месцам, дзе Касцёл адкрываецца як сакрамэнт еднасці, знак і прылада ўнутранай еднасці з Богам і еднасці ўсяго роду чалавечага". Святы Айцец падкрэсліў, што "надзвычай актуальным з'яўляецца патрэба ў тым, каб вучні Пана давалі сведчанне братэрскай еднасці ў нашым часта падзеленым, параненым свеце, уласцівая адзнака якога – падзелы, гвалт і войны".

# "У абарону веры"

30 чэрвеня Папа Ян Павел II абвясціў Апостальскае пасланне "Ad tuendam fidem" ("У абарону веры"). Дакумент датычыць Вызнання веры, якое традыцыйна складаюць духоўныя перад прыняццем касцёльнай улады, а таксама свецкія, якія атрымліваюць кананічнае права абвяшчаць слова Божае (тэолагі, катэхеты). Гэтае пасланне разам з апублікаванай пасля яго інструкцыяй Кангрэгацыі веравучэння мае вялікае значэнне і для ўсіх вернікаў. Дакументы даюць кампетэнтнае тлумачэнне прынцыпу іерархічнасці праўдаў веры. Многія тэолагі звярталі ўвагу на тое, што розныя выказванні Папы і іерархаў Касцёла адрозніваюцца па сваім статусе. Зразумела, што дагматычнае сцвярджэнне або выказванне, якое непасрэдна датычыць сутнасці веры – гэта адно, а заклік Папы адмяніць эмбарга супраць Кубы ці Ірака – зусім іншае. Усведамляючы розніцу паміж праўдамі, многія тэолагі рабілі з гэтага смелую выснову, што сумленне вернікаў абавязвае іх верыць выключна ў праўды, урачыста абвешчаныя як догматы, або ў тое, што непасрэдна перададзена праз Святое Пісанне.

Апостальскае пасланне, таксама як і інструкцыя Кангрэгацыі веравучэння, нагадвае пра важнасць кожнага з трох узроўняў у іерархіі праўдаў веры, якія ўваходзяць у Вызнанне веры. Гэта тое, у што належыць верыць як у аб'яўленае Боскім чынам або як у праўду каталіцкай дактрыны. Трэцяя частка Вызнання веры датычыць навучанняў Папы і Калегіі біскупаў – Магістэрыя Касцёла. Бясспрэчныя праўды, якія ўваходзяць ў Сімвал веры, хрысталагічныя і марыялагічныя догматы, вучэнне пра ўстанаўленне сакрамэнтаў Хрыстом і атрыманне праз іх ласкі Божай, рэальнай і субстанцыйнай прысутнасці Хрыста ў Эўхарыстыі, ахвярным характары Св.Імшы, заснаванні Касцёла па волі Хрыста належаць да найважнейшай часткі дэпазіту веры і непрызнанне іх з'яўляецца ерассю. Аднак у дакуменце выразна сцвярджаецца, што вызнанне і такіх праўдаў, як беспамылковасць Папы, недапушчальнасць эўтаназіі ці святарства толькі для мужчынаў, таксама неабходнае дзеля таго, каб быць у поўным адзінстве з Касцёлам.

Хаця ў некаторых колах, асабліва на Захадзе, абодва дакументы былі ўспрынятыя як чарговае абмежаванне на шляху тэалагічных пошукаў, з упэўненасцю можна сказаць, што яны толькі выпраўляюць юрыдычныя і тэалагічныя недахопы, якія з'явіліся пасля ўвядзення новага Кодэкса Кананічнага Права. Дакументы акрэсліваюць рамкі, у якіх навучанне Касцёла павінна захоўвацца і развівацца ў будучыні.

## КАНФЕСІЯНАЛ – НЕАБХОДНАЕ МЕСЦА ДЛЯ СПОВЕДЗІ

Папская Рада інтэрпрэтацыі прававых тэкстаў нагадала, што сакрамэнт споведзі павінен адбывацца ў канфесіянале альбо адпаведным для гэтага месцы. У дакуменце Рады падкрэсліваецца, што споведзь "тварам да твару" не выключана, але для яе патрэбная згода як спаведніка, так і пенітэнта (таго, хто спавядаецца). Кодэкс Кананічнага Права (ККП) вызначае, што нормы, якія датычаць канфесіяналаў, павінны прымацца Епіскапатам дадзенае краіны, але пры гэтым неабходна, "каб у бачным месцы былі канфесіяналы з кратамі паміж спаведнікам і пенітэнтам, каб вернікі маглі свабодна карыстацца імі, калі таго жадаюць". У ККП таксама падкрэсліваецца, што не трэба прымаць споведзі па-за канфесіяналам, акрамя як з-за сур'ёзных прычынаў". Афіцыйнае паведамленне Рады адзначае, што святар, які ўдзяляе сакрамэнт, мае поўнае права вырашыць, што споведзь павінна адбывацца ў канфесіянале, падзеленым кратамі, нават калі пенітэнт просіць аб іншым. Мэтай дакумента было падтрымаць тых святароў у Заходняй Еўропе, якія вырашылі аднавіць практыку споведзі ў канфесіянале.

## Папа пра ўнутранае адзінства Касцёла

"Няма аднаго Касцёла паводле "харызматычнага ўзору" і іншага – "на ўзор інстытута", а "супрацьпастаўленне харызмату і ўстановы вартае шкадавання і згубнае", – сказаў на аўдыенцыі 5 жніўня Ян Павел II. У катэхезе на тэму Духа Святога Папа паказаў Яго як крыніцу разнастайных харызматаў і служэнняў. Аналізуючы апісаную ў Дзеяннях Апостальскіх сітуацыю хрысціянскай супольнасці ў Антыохіі, Святы Айцец адзначыў, што там бачны "падвоены спосаб кіравання Касцёлам праз Духа Божага: з аднаго боку, Ён непасрэдна абуджае дзейнасць веруючых, адкрываючы новыя і нечаканыя шляхі абвяшчэння Евангелля, а з другога – чувае над іх пацвярджэннем праз афіцыйны ўдзел Касцёла". Ян Павел II нагадаў таксама вучэнне св.Паўла пра харызматы і яго параўнанне Касцёла з целам і заўважыў, што "разнастайнасць харызматаў не павінна выклікаць падзелы", але павінна служыць адзінству Касцёла, якое "з'яўляецца адзінствам дынамічным і арганічным, і што ўсе дары Духа важныя для жыццёвае здольнасці ўсяго цела".

### КОРАТКА

• Тытул Папскага універсітэта (шостага па ліку) надаў Ян Павел II Атэнэуму Святога Крыжа ў Рыме, які належыць пралацтву *Opus Dei*. Такім чынам споўнілася жаданне заснавальніка *Opus Dei* благаславёнага Хосэ-М. Э.дэ Балагеры стварыць у Рыме універсітэт. У мінулым годзе ў гэтай аўтарытэтнай навучальнай установе на чатырох аддзяленнях (тэалогія, кананічнае права, філасофія, мас-медыя) навучаліся больш як 1300 студэнтаў – свецкіх, святароў, дыяцэзіяльных клерыкаў і законнікаў.

• Апостальская Сталіца праз сваё пастаяннае Прадстаўніцтва пры ААН выказала крытыку ў адрас міжнароднай канферэнцыі міністраў па справах моладзі і сям'яў, якая адбывалася ў Лісабоне з 8 да 12 жніўня. Прычынай крытыкі стаў факт абсалютнага ігнаравання ў заключным дакуменце канферэнцыі права бацькоў на выхаванне ўласных дзяцей. Прадстаўнік Ватыкану прапанаваў увесці у дакумент такія паняцці, як правы і абавязкі бацькоў, але прапанова была адхілена. У канферэнцыі ўдзельнічалі міністры з 100 краінаў свету.

# *ПІЛІГРЫМКА Ў СЭРЦА ЕЎРОПЫ*

## 19-21 чэрвеня Папа Ян Павел II наведаў Аўстрыю

**Падчас візіту ў прамовах і гаміліях Папы выразна азначаліся дзве тэмы: унутраныя справы Касцёла ў Аўстрыі і пытанні еўрапейскай інтэграцыі.**



Аўстрыйскі Касцёл у пасляваенныя дзесяцігоддзі выконваў важную ролю маста паміж Касцёламі свабоднай Еўропы і народамі, якія жылі за "жалезнай заслонай". З вялікай ахвярнасцю аўстрыйскія католікі матэрыяльна і духоўна падтрымлівалі суседзяў, а Вена часта была месцам сустрэчаў і навучання вялікай колькасці католікаў з Усходняй Еўропы. Асаблівае месца Касцёл Аўстрыі займае ў дыялогу з праваслаўем. Натхняльнікам такога дыялогу часта была арганізацыя "*Pro Oriente*", створаная былым мітрапалітам Вены кардыналам Францам Кёнігам. Адважна рэагуючы на разнастайныя пытанні, якія прыносіць новы час, мясцовы Касцёл адыграў значную ролю ў асэнсаванні і рэалізацыі рашэнняў Другога Ватыканскага Сабору. Перадусім гэта выявілася ў сферы ўдзелу свецкіх у касцёльным жыцці і развіцці іх адказнасці за Касцёл, у сферы экуменічнага дыялогу і развіцці дабрачыннасці.

Фармальна Аўстрыя застаецца адной з найбольш "каталіцкіх" краінаў Захаду, але, падобна як і ў многіх іншых краінах, Касцёл у Аўстрыі ўжо доўгія гады перажывае крызіс уласнай рэлігійнай тоеснасці. У 90-х гадах менавіта ў Аўстрыі ўзніклі моцныя рухі, якія разбураюць еднасць Касцёла, прыніжаюць значэнне душпастырскай практыкі, аўтарытэта Папы і яго навучання.

Знешняй праявай крызісу Касцёла ў Аўстрыі з'яўляецца зніжэнне колькасці людзей, якія лічаць сябе вернікамі. Паводле некаторых прагнозаў, да 2008г. у Вене католікі будуць складаць толькі палову ўсіх жыхароў горада (сёння больш за 70% аўстрыйцаў лічаць сябе католікамі). Зніжаецца таксама колькасць святарскіх і манаскіх пакліканняў. У выніку, вельмі хутка павялічваецца сярэдні ўзрост святароў, а многія кляштары, якія раней былі сапраўднымі цэнтрамі духоўнага жыцця, цяпер пустуюць.

### *Спакой унутры Касцёла*

Папа ведаў пра шматлікія праблемы аўстрыйскага Касцёла. Таму вернікам, што прыехалі на сустрэчы ў Зальцбургу, Сант-Пёльтэн і Вене, ён прынес словы надзеі. "Вы – не толькі распарадчыкі будучыні, але менавіта вы таксама і рыхтуеце будучыню, да якой Дух Святы вядзе Касцёл", – казаў Папа падчас Св.Імшы ў Сант-Пёльтэн.

Узгадваючы праблему, якая хвалюе аўстрыйскі Касцёл – недахоп пакліканняў, Ян Павел II нагадаў, што новыя пакліканні магчымыя і цяпер з дапамогай Духа Святога. Трэба толькі стварыць асяроддзе, якое было б здольнае чуць кліканні Бога, і вялікую ролю у гэтым адыгрываюць парафіяльныя супольнасці. Калі там будуць жывыя адносіны сапраўднай вернасці Пану, атмасфера глыбокай рэлігійнасці і адказнай гатоўнасці сведчыць, то пакліканым асобам будзе лягчэй сказаць "так".

Аўстрыйцам, якія ўжо доўгі час жывуць у атмасферы скандалаў, што ўчыняюць мас-медыя пры любым выпадку выступленняў т.зв. "кантэстатараў" (католікаў, якія адкрыта і рэзка крытыкуюць іерархію і часта не згаджаюцца з падставовымі нормамі жыцця Касцёла, напр., цэлібатам святароў), Папа нагадаў некалькі асноватворных праўдаў – неабходнасць падтрымліваць унутраную еднасць Касцёла, ажыўляць парафіяльнае жыццё, а таксама падкрэсліў значэнне малітвы ў жыцці ўсіх касцёльных супольнасцяў. Закранаючы крытычнае стаўленне часткі вернікаў да касцёльнай іерархіі, Святы Айцец адзначыў, што ўлада ў Касцёле – гэта не здабытак чалавека, – яна ўстаноўлена Богам. А таму, прызнаючы і шануючы важнасць служэння свецкіх у парафіяльных супольнасцях, нельга забываць, што ў сакрамэнтальнай сферы свецкі ніколі не заменіць святара.

21 чэрвеня, падчас Св.Імшы на венскім Хельдэнпляц, калі былі беатыфікаваны сястра Рэсцітута Кафка з Кангрэгацыі сясцёр Хартмана, нарбертанін Якаб Керн і "апостал працоўных" кс.Антон-Марыя Шварц, Ян Павел II звярнуў увагу прысутных на неабходнасць даваць асабістае сведчанне. Папа падкрэсліў, што вызнаваць Хрыста толькі на словах недастаткова, сучасны Касцёл мае патрэбу ў хрысціянах у абсалютным значэнні гэтага слова, і дадаў, што Езус Хрыстус шукае не тых, хто будзе пляскаць Яму ў далоні, але тых, хто пойдзе за Ім. У сваю чаргу, Святы Айцец нагадаў біскупам, што іх служэнне павінна грунтавацца на прыкладзе Добрага Пастыра, які прыйшоў не панаваць і не дзеля таго, каб яму служылі, але служыць іншым.

### **Еўропа двух лёгкіх**

Візіт Папы ў Аўстрыю адбываўся незадоўга да таго, калі гэтая краіна павінна была стаць чарговым кіраўніком Еўрапейскага Саюза. Яна таксама ўжо доўгі час адыгрывае важнейшую ролю ў працэсе еўрапейскага дыялогу "Усход-Захад". У Вене размешчаныя цэнтраль-




ныя сядзібы важных еўрапейскіх і сусветных арганізацый. Мабыць, таму падчас візіту Папа часта ўзгадваў палітычную ролю Аўстрыі на еўрапейскім кантыненце. Асабліва значэнне меў зварот Яна Паўла ІІ аб пашырэнні Еўрапейскага Саюза за кошт краінаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Прамаўляючы да прадстаўнікоў дыпламатычнага корпусу, кіраўнічых органаў АБСЕ і членаў аўстрыйскага ўраду, Папа падкрэсліў, што перад будаўнікамі Еропы стаіць вялікае заданне "ператварэння заходнееўрапейскай выспы дастатку ў агульнаеўрапейскі рэгіён свабоды, справядлівасці і спакою". Ён дадаў, што разнастайнасць усходняй і заходняй традыцый павінна ўзбагачаць еўрапейскую культуру і служыць падставай адраджэння. Таму варта казаць хутчэй пра "еўрапеізацыю" ўсяго кантынента, чым пра "яго пашырэнне на ўсход", – заўважыў Святы Айцец.

Сваёй пілігрымкай Папа хацеў дапамагчы ўмацаванню аўстрыйскага Касцёла, паказваючы важнейшыя крыніцы ягонай еднасці. Ён звярнуў увагу палітыкаў на тое, што немагчыма будзе дасягнуць адзінства і салідарнасці паміж народамі Еўропы без агульнай сістэмы каштоўнасцяў і агульных этычных стандартаў, карэнні якіх на нашым кантыненце знаходзяцца ў хрысціянстве.

***Паводле публікацыі "Gościa Niedzielnego" і інфарм-сэрвіса AG***

**Дарагія чытачы, аўтары і сябры!**
Цяпер з нашай рэдакцыяй, а таксама рэдакцыямі часопісаў "Ave Maria" і "Наша вера" можна звязацца праз электронную пошту. Наш адрас:
**e-mail: maria@maria.belpak.minsk.by**

# Новыя благаславёныя, беатыфікаваныя Янам Паўлам ІІ у Аўстрыі

**Кс.Якаб Франц Керн** быў у законе нарбертанаў усяго некалькі гадоў. У 27 гадоў ён стаў адчуваць наступствы атрыманага падчас вайны ў 1916г. цяжкага пашкоджання лёгкіх і іншых органаў. У выніку, як ён сам казаў, жыццё стала пастаянным "Вялікім Тыднем". Пасля заканчэння тэалагічнага навучання кс.Керн у 1920г. уступіў да нарбертанаў, а праз два гады прыняў святарскае пасвячэнне. Ён перанёс шмат аперацый, большасць з якіх з-за асаблівасцяў хваробы адбываліся без наркоза. Свае цярпенні кс.Керн ахвяраваў за паяднанне народаў.

Асоба **с.Рэсцітуты (Гэлены Кафкі)** стала часткай драматычных падзей, у якія давялося жыць законніцы. Яна нарадзілася 1 мая 1894г. у Брно ў чэшска-нямецкай сям'і, якая пазней пераехала ў Вену. Гэлена вырашыла служыць хворым і пасля атрымання адпаведнай адукацыі пачала працаваць санітаркай у венскіх шпіталях. Адначасова яна ўступіла ў Зграмаджэнне сясцёр Хартмана. Зграмаджэнне накіравала яе працаваць у шпіталь у Мёдлінг. Там, працавітая і сардэчная, сястра заслужыла пашану і персаналу, і пацыентаў. Пасля нямецкай акупацыі Аўстрыі змянілася сітуацыя і ў шпіталі. Сярод лекараў выявіліся адэпты фашызму, якія з асаблівай нянавісцю ставіліся да Касцёла. Паколькі с.Рэсцітута не хавала сваёй непрыхільнасці да нацыянал-сацыялістаў, то хутка апынулася пад наглядам. Першы канфлікт узнік пасля таго, як законніца павесіла крыжы ў палатах новага аддзялення шпіталя. А потым з'явіўся данос, у якім сцвярджалася, што сястра перапісвае тэксты антыгітлераўскіх песень, якія прывозілі ў шпіталь раненыя жаўнеры. Сястру арыштавалі і пасля брутальнага следства "народны трыбунал" прыгаварыў яе да пакарання смерцю. 30 мая 1943г. законніцу забілі ў венскай вязніцы. Да апошняй хвіліны жыцця яна захоўвала мужнасць і незвычайную духоўную сілу, што пацвердзіў капелан вязняў, які суправаджаў асуджаную па дарозе на эшафот.

**Кс.Антон-Марыя Шварц** быў жыхаром Вены. Ён нарадзіўся 28 лютага 1852г. у Бадэне каля аўстрыйскай сталіцы. Будучы піярам, ён асабліва цікавіўся выхаваўчай працай, перадусім сярод самых абяздоленых слаёў насельніцтва Вены. Кс.Шварц быў таксама знаўцам каталіцкага сацыяльнага вучэння, якое толькі нараджалася ў той перыяд. Святар імкнуўся рэалізоўваць на практыцы прынцыпы вучэння Касцёла. Заснаваны кс.Шварцам часопіс пачаў прапагандаваць палажэнне аб 8-гадзінным працоўным дні, вольнай ад працы нядзелі і ўсеагульнай адукацыі. Кс.Шварц часта матэрыяльна дапамагаў страйкуючым рабочым. Ён быў натхняльнікам шматлікіх культурных ініцыятыў: ствараў вакальныя і аматарскія тэатральныя гурты, маладзёжныя групы. Святар навучаў, што толькі дзякуючы арганізаванасці і адукацыі рабочыя змогуць дамагчыся паляпшэння свайго сацыяльнага становішча. Ён памёр 15 верасня 1929г.

# Мільярд каталікаў у свеце

Католікі складаюць 17,3% насельніцтва, г.зн. практычна 1 млрд. чалавек – паведаміў Статыстычны гадавік Касцёла. Сярод жыхароў Амерыкі католікаў 63%, Еўропы – 41%, Акіяніі – 28%, Афрыкі – 15% і Азіі, калысцы хрысціянства, – каля 3%. У агульную лічбу католікаў у свеце не ўваходзяць католікі Кітая і Паўночнай Карэі, дзе іх, паводле розных крыніцаў, жыве ад 5 да 15млн. чалавек. У 1996г. было ахрышчана 18,1млн. новых членаў Касцёла, 3,6млн. параў заключылі сакрамэнт сужэнства.

Сёння Касцёл налічвае амаль 2800 дыяцэзій, апостальскіх адміністратураў, вікарыятаў і прэфектураў, у якіх выконвае служэнне звыш 4300 біскупаў, 405тыс. святароў (з іх кожны трэці належыць да законаў), амаль 24тыс. пастаянных дыяканаў, 59тыс. братоў-манахаў, 829тыс. законніцаў, 30тыс. членаў свецкіх утварэнняў (99% з іх жанчыны), 9,5тыс. свецкіх місіянераў і амаль 1,6млн. свецкіх катэхізатараў. У вышэйшых духоўных семінарыях навучаецца 106тыс. алюмнаў. У 1996г. было пасвечана амаль 6,8тыс. новых дыяцэзіяльных святароў.

Касцёл вядзе шырокую асветніцкую дзейнасць: звыш 5,2млн. дзяцей наведваюць каталіцкія дзіцячыя садкі, а 38,6млн. дзяцей – пачатковыя школы. У сярэдніх і вышэйшых навучальных установах, якія ўтрымлівае Касцёл, навучаюцца амаль 2млн. маладых людзей. Касцёлу таксама належаць 112тыс. шпіталяў, медыцынскіх кансультацый, лепразорыяў, дамоў для інвалідаў і невылечна хворых.

# "АРХІТЭКТАР МІРУ"

**У Рыме ва ўзросце 83 гадоў памёр кардынал Агасціна Казаролі, які ў 1967-1990гг. займаў пасаду дзяржаўнага сакратара Апостальскай Сталіцы.**

Ганс Якаб Сціл піша ў польскім каталіцкім "Tygodniku Powszechnym", што нават колішнія крытыкі "ўсходняй палітыкі" Ватыкану цяпер выказваюцца пра памерлага іерарха вельмі станоўча. Сын простага італьянскага краўца, за 44 гады працы ў Апостальскай Сталіцы ён прайшоў шлях ад памочніка архівіста да кардынала.



Менавіта ён у 1962г., падчас венскай канферэнцыі ААН, наладзіў першыя кантакты з прадстаўнікамі камуністычных краінаў. Праз год з дапамогай венскага кардынала Франца Кёніга, Казаролі ўдалося дамагчыся ад уладаў у Будапешце *modus vivendi* для венгерскага Касцёла.

Тады, у размове з амерыканскім паслом, які скептычна ставіўся да падобнай касцёльнай дыпламатыі, Агасціна Казаролі сцісла выклаў свае погляды: у камуністычным маналіце трэба шукаць расколінкі і паслядоўна "высяваць у іх зародкі свабоды", якія будуць расці і расколваць калос. Пазней ён так тлумачыў падобную стратэгію: "Быць гатовым рызыкаваць з мудрасцю і без прэтэнзій на беспамылковасць; трэба таксама пазбягаць жорсткага прынцыпу "ўсё альбо нічога" ці "цяпер альбо ніколі".

Кардынал Казаролі здолеў убачыць розніцу ў стаўленні да Касцёла камуністычных рэжымаў розных краінаў. Самым моцным арэшкам заставалася Масква. Толькі ў 1988г. яму ўдалося публічна выступіць у СССР. Падчас урачыстасцяў 1000-годдзя хросту Русі ў Вялікім тэатры ён заклікаў улады краіны да "новага духу" ў адносінах да рэлігіі.

"Ужо падчас маіх першых непасрэдных знаёмстваў з так званым рэальным сацыялізмам я зразумеў, што гэты эксперымент не мае будучыні", – казаў Агасціна Казаролі ў 1990г. падчас лекцыі ў Кракаве. – "Гэтая сістэма была асуджаная на паразу. Заставалася толькі пытанне: калі і як".

У рэдакцыйным артыкуле "Tygodnika Powszechnego" ягоны рэдактар Ежы Туровіч піша, што кіраўнік знешняй палітыкі Ватыкану, як паказаў час, меў рацыю. Галоўным дасягненнем гэтай палітыкі стала падпісанне (у т.л. і Савецкім Саюзам) у 1975г. у Хельсінкі Выніковага акту Канферэнцыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе, у якім усе краіны-ўдзельніцы абавязваліся шанаваць свабоду рэлігіі. Апостальскую Сталіцу на канферэнцыі прадстаўляў кардынал Казаролі.

Пераломным момантам ва "ўсходняй палітыцы" Ватыкана стала абранне на Апостальскі Пасад кардынала Караля Вайтылы. Ян Павел II выдатна ведаў пра становішча Касцёла ў савецкай імперыі, таму вельмі хутка тактыка "маленькіх крокаў" ператварылася ў смелыя выступы ў абарону рэлігійнай свабоды і правоў вернікаў, а евангельскае слова спрычынілася да развалу імперыі.

Пасаду дзяржаўнага сакратара кардынал Казаролі пакінуў амаль адразу пасля падзення камуністычных рэжымаў у Еўропе – у 1991г. Знаходзячыся на пенсіі, свой вольны час ён прысвячаў чытанню філасофскіх кніг і (чым ён ужо займаўся і раней, калі толькі дазвалялі абавязкі) душпастырскай працы з маладымі людзьмі, якія ўвайшлі ў канфлікт з законам.

Ян Павел II укленчыў перад труной кардынала ў базыліцы св.Пятра. Развітваючыся з Агасціна Казаролі, ён назваў кардынала "operatore di pace" – "архітэктарам міру".

**Падрыхтаваў Н.А.**

## Аднаўляецца традыцыя экуменічных кантактаў

Ян Павел II і мітрапаліт Пергамонскі Іаан, які ўзначальваў дэлегацыю Сусветнага Канстанцінопальскага Патрыярхата, разам маліліся каля труны св.апостала Пятра падчас урачыстасці святых Пятра і Паўла 29 чэрвеня. Папа падзякаваў Патрыярху Барталамею за накіраванне дэлегацыі на гэтую ўрачыстасць і запэўніў, што прадстаўнікі Апостальскай Сталіцы будуць удзельнічаць сёлета ва ўрачыстасці св.апостала Андрэя ў Канстанцінопалі. Такім чынам будзе аднаўлена 22-гадовая традыцыя, перарваная ў мінулым годзе, калі праваслаўная дэлегацыя не прыбыла ў Ватыкан з-за пагаршэння стасункаў паміж Рымам і Канстанцінопалем.

## Хутка новая энцыкліка Папы

Ян Павел II закончыў падрыхтоўку новай энцыклікі *Fides et ratio* (Вера і розум), – паведаміў дырэктар прэс-бюро Апостальскай Сталіцы Ёакім Наварo-Валс. Тэкст трынаццатай энцыклікі налічвае каля 150 старонак, ён будзе апублікаваны ўвосень. Эксперты адзначаюць, што напрыканцы тысячагоддзя Папа хоча наноў прадставіць свету сувязь веры і розуму ў пошуку адказу на пытанне пра сэнс жыцця. Ян Павел II паказвае немач сучаснай культуры ў вырашэнні значных праблемаў, якімі цягам стагоддзяў займаліся рэлігія і філасофія. Энцыкліка ўяўляе сабой адказ на экспансію некаторых сучасных формаў мыслення з іх рэлятывізмам, якія прыводзяць да распаду каштоўнасцяў і разбурэння іерархіі вартасцяў сучаснага чалавека.

ПАЛЕСЦІНА

## Небяспечны канфлікт Царквы і дзяржавы

Новае аблічча можа набыць канфлікт у Палесціне. Апошнім часам узнікла сур'ёзнае напружанне паміж уладамі Палесцінскай аўтаноміі і праваслаўным Ерусалімскім Патрыярхатам, якому падначалены праваслаўныя вернікі ў Ізраілі і Іарданіі, арабы паводле нацыянальнасці. Тым не менш, гістарычна так склалася, што Ерусалімскі Патрыярхат арыентуецца на Грэцыю і грэцкія рэлігійныя традыцыі. Усе Патрыярхі да апошняга часу былі грэкамі. Цяпер, калі палесцінскія ўлады набываюць ад Ізраіля усё больш правоў, яны паставілі пытанне пра нацыянальны характар праваслаўя ў Палесціне. Больш таго, Басам Абу Шарыф, давераны супрацоўнік кіраўніка аўтаноміі Ясіра Арафата, запатрабаваў, каб Ерусалімскі Патрыярх Дыядор як найхутчэй пакінуў сваё служэнне і вярнуўся ў Грэцыю. У адваротным выпадку яго жыццю можа пагражаць небяспека. Абу Шарыф патлумачыў, што, прадаючы ізраільскім асаднікам манастыры вакол Ерусаліма і Джаффы, Патрыярх парушыў непісаны закон арабаў, паводле якога продаж зямлі яўрэям караецца смерцю. На думку Абу Шарыфа, прыйшоў час спыніць "каланізацыю Палесціны грэцкай Царквой".

ПАЎНОЧНАЯ ІРЛАНДЫЯ

## Варварства ў ХХ стагоддзі

У канцы чэрвеня – пачатку ліпеня зноў адбыліся ўзброеныя сутыкненні ў Паўночнай Ірландыі, якая належыць Вялікабрытаніі. Канфлікт цягнецца ўжо шмат дзесяцігоддзяў: каталіцкая частка насельніцтва выступае за выхад Паўн.Ірландыі са складу Аб'яднанага Каралеўства, але гэтаму супраціўляюцца мясцовыя пратэстанты. З абодвух бакоў змагаюцца радыкальныя групоўкі, якія ўжо неаднаразова былі асуджаны як Касцёлам, так і пратэстанцкімі абшчынамі.

Уначы з 2 на 3 ліпеня ў Белфасце пажар пашкодзіў дзве пратэстанцкія цэрквы, таксама была спроба падпаліць каталіцкую школу ў Гэрваджы. Праўдападобна, што гэта быў акт у адказ на падзеі мінулага дня. Адразу ж пасля першага пасяджэння новага паўночна-ірландскага парламента ў Белфасце і некалькіх іншых гарадах было падпалена 10 каталіцкіх храмаў, тры з іх згарэла дашчэнту. Улады мяркуюць, што экстрэмісты імкнуцца спыніць мірны працэс у Паўн.Ірландыі, распачаты падпісаннем паразумення 10 красавіка. Прымас Англіканскай Царквы арцыбіскуп Робін Йімс даслаў на імя кіраўніка паўночна-ірландскага Касцёла арцыбіскупа Шона Брэдзі спачуванні ўсім католікам.

ЗША

## Адновіцца тэалагічны дыялог

У будучым годзе ў Балтыморы адбудзецца першая пасля 6-гадовага перапынку сустрэча Міжнароднай каталіцка-праваслаўнай камісіі па багаслоўскім дыялогу. Тэмай сесіі стане калегіяльная ўлада сабораў і сінодаў.

Афіцыйны тэалагічны дыялог паміж Касцёлам і Праваслаўнымі Цэрквамі распачаўся пасля візіту Яна Паўла ІІ у Стамбул і сустрэчы 30 лістапада 1979г. з Канстанцінопальскім Патрыярхам Дзімітрасам. Дыялог быў спынены ў выніку крызісу ўзаемаадносінаў, выкліканага легалізацыяй ва Усходняй Еўропе дзейнасці Грэка-Каталіцкіх Цэркваў, а таксама актывізацыяй у гэтым рэгіёне душпастырства католікаў лацінскага абраду.

**РЭДАКЦЫЯ "КАТАЛІЦКІХ НАВІНАЎ"**

запрашае ахвотных (вернікаў і святароў) да пазаштатнага супрацоўніцтва. З удзячнасцю будзем публікаваць навіны рэлігійнага жыцця Вашай парафіі, горада альбо рэгіёна.

Напішыце, калі ласка, нам пра Вашае жаданне супрацоўнічаць з "Каталіцкімі навінамі". Мы скантактуемся з Вамі, каб распавесці пра канкрэтныя магчымасці супрацоўніцтва.

АЎСТРЫЯ

## Міністр пра секту сайенталогіі

"Члены секты сайенталогіі, якія хацелі б працаваць у грамадскіх установах, павінны адмовіцца ад вучэння (т.зв. "дыянэтыкі") заснавальніка секты Хабарда", – заявіў у адным з інтэрв'ю аўстрыйскі міністр па справах сям'і Марцін Бартэнштайн. Гаворка ідзе не пра забарону на прафесію, а пра тое, каб настаўнікі і выхавацелі не займаліся сектанцкай апрацоўкай дзяцей і моладзі. Пры гэтым міністр прывёў прыклады скандальных, на яго думку, выпадкаў, калі матэрыялы сайентолагаў знаходзілі ў навучальных дапаможніках у некаторых венскіх школах.

## Пошукі паразумення паміж праваслаўнымі і грэка-католікамі

Канфлікту паміж Грэка-Каталіцкай і Праваслаўнай Цэрквамі на Украіне быў прысвечаны сімпозіум у Вене. Па запрашэнні аўстрыйскага фонда "Pro Oriente" ў сімпозіуме ўдзельнічалі грэка-каталіцкі ўладыка Любамір Гузар, дапаможны біскуп Вярхоўнага арцыбіскупа Львова, праваслаўны біскуп Львоўскі і Дарагобыцкі Аўгустын, заснавальнік фонда "Pro Oriente" кардынал Франц Кёніг і арцыбіскуп Вены Хрыстаф Шонбарн. На сімпозіуме абмяркоўвалася, у асноўным, напружаная міжрэлігійная сітуацыя ў Заходняй Украіне. Біскуп Аўгустын абвінаваціў грэка-католікаў у невыкананні абавязкаў, прынятых падчас мінулагодніх перамоваў у Кіеве. Адказваючы на абвінавачанні, біскуп Любамір Гузар заявіў, што Рым і Масква лічаць сябе "пабратымамі міру", ускладаючы віну за дрэнныя стасункі на грэка-католікаў. Ён дадаў, што ўжо стаміўся быць аб'ектам перамоваў, а ўкраінскія Цэрквы павінны самастойна вырашыць уласныя праблемы.

КОРАТКА

• Былы арцыбіскуп Вены кардынал Франц Кёніг стаў сёлета лаўрэатам узнагароды св.Адальберта-Войцеха. Уручаючы яе, прэзідэнт Германіі Роман Герцаг адзначыў, што кардынал з'яўляецца выбітным будаўніком мастоў паяднання паміж Усходам і Захадам.

**В'ЕТНАМ**

## Камуністы ўзмацняюць кантроль над каталікамі

Палітбюро Кампартыі В'етнама мае намер узмацніць кантроль за Касцёлам. Партыйная газета "Нхан Дан" апублікавала 8 ліпеня дакумент Палітбюро, у якім частка католікаў абвінавачваецца ў выкарыстанні рэлігіі для нанясення шкоды нацыянальным інтарэсам, у прыватнасці – арганізацыі несанкцыянаваных уладамі сходаў, друкаванні і распаўсюджванні Бібліі, рамонце і будаўніцтве новых сакральных будынкаў. У дакуменце падкрэсліваецца, што кожны, "хто выкарыстоўвае рэлігію для арганізацыі грамадскіх хваляванняў, пагражае нацыянальнаму суверэнітэту, сабатуе палітыку народнага адзінства, а таму будзе асуджаны паводле закону".

У В'етнаме фармальна існуе свабода рэлігіі, аднак рэлігійная дзейнасць кантралюецца створаным кампартыяй "Патрыятычным фронтам". Сярод 74-мільённага насельніцтва краіны большасць вызнае будызм. Католікаў налічваецца каля 7млн. чалавек.

**САУДАЎСКАЯ АРАВІЯ**

## Хрысціянаў праследуюць за веру

Не менш за 30 грамадзянаў замежных дзяржаў былі арыштаваны ў ліпені г.г. за карыстанне Бібліяй і пропаведзь Евангелля. Дзевяць з іх (адзін галандзец і восем філіпінцаў) былі адпушчаны дзякуючы намаганням міжнародных арганізацый. Адзін з вязняў пацвердзіў, што арыштаваныя хрысціяне падвяргаліся катаванням. Амбасадары Галандыі і Філіпінаў не атрымалі дазволу наведаць сваіх суайчыннікаў.

У Саудаўскай Аравіі, якая з'яўляецца ісламскай манархіяй, вызнаўцы іншых рэлігій складаюць толькі 2% насельніцтва. Пераход з іслама ў іншую рэлігію, паводле заканадаўства гэтае краіны, з'яўляецца злачынствам і нават караецца смерцю.

**СУДАН**

## Заходнія краіны замоўчваюць факты злачынстваў

Біскуп Макс Гэсіс абвінаваціў заходнія краіны ў замоўчванні фактаў праследу хрысціянаў у ісламскім Судане. "Судан мае нафтавыя радовішчы, у сувязі з чым Захад клапоціцца пра ўласныя эканамічныя інтарэсы", – заявіў каталіцкі біскуп. Найбольшую пагрозу для хрысціянаў уяўляе кампанія выкрадання дзяцей. Яшчэ ў 1990г. біскуп М.Гэсіс выкупіў першую групу маленькіх нявольнікаў па 100 даляраў за хлопчыка і 50 за дзяўчынку. Іерарх мяркуе, што ў першыя месяцы 1998г. было выкрадзена не менш як 3тыс. дзяцей ва ўзросце да 15 гадоў: дзяўчынак пры гэтым выкарыстоўваюць сексуальна, а хлопчыкаў адпраўлюць у выхаваўчыя лагеры, дзе іх прымушаюць перайсці у іслам і стаць жаўнерамі.

**РУМЫНІЯ**

## Папа будзе запрошаны наведаць краіну

Патрыярхат Румынскай Праваслаўнай Царквы (РумПЦ) мае намер запрасіць Яна Паўла II наведаць краіну ў маі наступнага году. Гэта быў бы першы візіт Папы ў краіну, дзе большасць насельніцтва складаюць праваслаўныя хрысціяне. Чакаецца, што Сінод РумПЦ падтрымае запрашэнне, якое ранней накіраваў Святому Айцу прэм'ер румынскага ўраду, – паведаміла афіцыйнае агенцтва Праваслаўнае Царквы. Аднак візіт Папы мусіў бы адбыцца пасля шэрагу сустрэчаў каталіцка-праваслаўнай камісіі на тэму маёмаснага канфлікту паміж католікамі і праваслаўнымі ў Румыніі.

# ЦІ ВАРТЫ ВЫСІЛКАЎ АКТЫВІЗМ?

Адзін з аргентынскіх біскупаў, Кармэло Хуан Джыяквінта, на сустрэчы з духавенствам сваёй архідыяцэзіі звярнуў увагу на тое, што абавязкам святароў з'яўляецца заахвочваць вернікаў да малітвы, без якой любая хрысціянская праца непазбежна становіцца актывізмам.

Арцыбіскуп адзначыў, што найбольшы грэх святара – не заахвочваць людзей маліцца. "Таму яны трапляюць у фрустрацыю і не знаходзяць паўнаты чалавечага быцця", – сказаў ён.

Арцыбіскуп Джыяквінта заўважыў, што біскупы і святары выдаткоўваюць шмат часу: "Мы тысячы разоў скардзімся з-за рознага роду несправядлівасці, але забываем даць чалавеку самы плённы сродак для развіцця, якім з'яўляецца навука, што вынікае з малітвы да Бога Айца". У 60-х гадах, – нагадаў ён, – у Касцёле замацавалася перакананне: усё, што робіцца з любові да Бога, можна лічыць малітвай – выкананне штодзённых абавязкаў, харытатыўная праца, клопат пра ўбогіх і хворых, доўгія сустрэчы з мэтай планавання і ацэнкі душпастырскай дзейнасці... Аднак "запал перамяніўся ў гарачку, і ў гэты момант пачаўся крызіс асабістае малітвы, з якога дагэтуль мы не можам выбрацца. Гэтай спакусе паддаліся семінарыі, навіцыяты, законніцы і законнікі, святары і біскупы. Парафіі страцілі здольнасць абуджаць у вернікаў асабістую малітву, бо вернікі сталі ўдзельнічаць у пазапарафіяльных ініцыятывах".

Арцыбіскуп звярнуў увагу на тое, што падчас Св.Імшы мы часта "ўжо не умеем перажыць хвіліну цішыні: кажам сведчанні, чытаем вершы, слухаем спевакоў альбо самі гучна спяваем. У выніку трацім глыбіню асабістае малітвы, прынцыповае значэнне таямніцы ўцелаўлёнага Хрыста, а потым і таямніцы чалавека... Праўда: усё, што хрысціянін робіць згодна з воляй Божай, можа разглядацца як малітва. Мы, аднак, не павінны забываць важнейшага прынцыпу біа-псіхалагічнай структуры чалавека: тое, што робім заўсёды, часам варта рабіць асаблівым чынам, у адпаведным месцы і ў адпаведны час".

**ІНТЭРНЭТ**

• Ад пачатку жніўня інфармацыя пра міжнародны каталіцкі праект дапамогі "Kirche in Not/Ostpriesterhilfe" размяшчаецца на адпаведнай старонцы арганізацыі (*www.kirche-in-not.org*). "Kirche in Not" існуе ўжо больш як 50 гадоў, яе мэта – дапамагаць душпастырскай працы ў розных краінах свету, асабліва ў сферы падрыхтоўкі святароў і законнікаў. На вэб-старонцы арганізацыі можна знайсці інфармацыю пра яе задачы і структуру, гісторыю і заснавальніка – кс.В.В.Штраатэна, а таксама агляд актуальных публікацый і анатацыю праектаў.

• Часопіс "W drodze", які выдаюць польскія дамініканe, ад 8 жніўня існуе таксама ў электронным фармаце. Па адрасе *www.mateusz.pl/w drodze* цяпер можна прачытаць юбілейны 300-ы нумар штомесячніка. Таксама рыхтуецца архіў публікацый за мінулыя гады. "Дзякуючы гэтаму спадзяемся стаць даступнымі больш шырокаму колу чытачоў... Гэтак мы таксама рэалізуем нашае пакліканне, якое кажа нам евангелізоўваць усіх людзей паўсюль. Думаю, гэта ў роўнай ступені тычыцца і інтэрнэту", – сказаў галоўны рэдактар "W drodze" а.Павел Казацкі.

• На польскім сэрверы "Mateusz" (*www.mateusz.pl*) з'явілася рускамоўная старонка айцоў-кларэтынаў, якія працуюць у Сібіры. Старонка хутка "загружаецца", і на ёй, акрамя поўнага тэксту Бібліі, можна знайсці тэксты некалькіх энцыклікаў Яна Паўла ІІ, частку дакументаў Другога Ватыканскага Сабору, вялікі збор малітваў і калекцыю анатаваных спасылак (лінкаў) на іншыя – перадусім англельскамоўныя – хрысціянскія сайты.

• Ад 15 жніўня з дапамогай інтэрнэту можна сачыць за ўсімі сустрэчамі Святога Айца з вернікамі. Штодзённая малітва "Анёл Панскі", агульныя аўдыенцыі па серадах, важнейшыя ўрачыстасці з удзелам Папы і ўсе яго падарожжы будуць трансляваца на ватыканскіх старонках (*www.vatican.va*).

**БАЛГАРЫЯ**

## Балгарская Праваслаўная Царква пакіне экуменічны форум

Балгарская Праваслаўная Царква мае намер у хуткім часе пакінуць Сусветную Раду Цэркваў – створаную паўстагоддзя таму экуменічную арганізацыю, якая цяпер аб'ядноўвае звыш 330 хрысціянскіх цэркваў. Прычынай такога рашэння, – паведаміла адна з царкоўных газетаў краіны, – паслужыў факт маштабнага празэлітызму ў традыцыйна праваслаўных краінах розных сектаў, якія існуюць "пад крылом даўно створаных пратэстанцкіх цэркваў". У 1997г. СРЦ пакінула Грузінская Праваслаўная Царква, аб намеры зрабіць падобныя крокі заявілі таксама Сербскі і Маскоўскі Патрыярхаты.

**ІНДЫЯ**

## Законніцы супраць спекуляцый імем Маці Тэрэсы

Місіянеркі міласці выказалі нязгоду з намерам пабудаваць у Калькуце помнік Маці Тэрэсы, заснавальніцы Закону місіянерак міласці, а таксама ўстанавіць у яе гонар узнагароду і назваць яе імем адну з вуліцаў горада. Настаяцельніца Закона с.Нірмала ў лісце да Камітэта памяці Маці Тэрэсы, які стаў ініцыятарам гэтых праектаў, папрасіла адмовіцца ад падобнай задумы і распусціць камітэт, бо Маці Тэрэса ніколі не дазваляла выкарыстоўваць сваё імя для збору грошай на якія-небудзь мэты. Камітэт, які дзейнічае са згоды ўраду Індыі, мае намер пабудаваць бронзавую статую законніцы коштам каля 19тыс. даляраў.

**КОРАТКА**

• Нямецкая канферэнцыя біскупаў паведаміла, што каталікі не могуць быць членамі Партыі дэмакратычнага сацыялізму, правапераемніцы камуністаў былой ГДР. Генеральны сакратар Епіскапату кс.Ганс Лангенд'ёрфэр адзначыў, што гэтая партыя разбурае "асновы паразумення" ў ФРГ і яе погляды занадта далёкія ад сацыяльна-этычнага вучэння Касцёла, таму яна не з'яўляецца годным месцам для каталікаў.

• Больш за 2,5 млн. чалавек прыйшлі да Турынскай плашчаніцы, якая была выстаўлена для пакланення ў катэдры ў Турыне з 19 красавіка да 14 чэрвеня. Наступны раз плашчаніца будзе публічна выстаўлена ў 2000 годзе.

• У 44 мужчынскіх і амаль тысячы жаночых кантэмпляцыйных кляштарах у Іспаніі жыве звыш 14 тыс. манахаў і манашак.

• Па рашэнні Канферэнцыі бельгійскіх біскупаў у краіне створана рабочая група па пытаннях сектаў. Група будзе праводзіць інфармацыйную і папераджальную працу.

• Дзве трэці італьянскіх гінеколагаў паведамілі, што па маральных перакананнях яны не будуць рабіць аборты, – паведаміла італьянскае міністэрства аховы здароўя. Італьянскае заканадаўства забараняе прымушаць лекара рабіць аборты. У мінулым годзе ў краіне колькасць перарваных цяжарнасцяў зменшылася на 6%.

**ПОЛЬШЧА**

• 25 чэрвеня у Яблэчнай (250км. ад Беластоку) праваслаўны манастыр св.Ануфрыя святкаваў сваё 500-годдзе. На юбілей прыйшлі і прыехалі да 10тыс. вернікаў з Польшчы, Беларусі і Украіны, а таксама госці – прадстаўнікі праваслаўных Цэркваў з многіх краінаў і прадстаўнікі пратэстанцкіх дэнамінацый з Польшчы. На ўрачыстасцях вельмі шмат гаварылася пра цяжкі лёс польскага праваслаўя, уціск з боку каталікаў.

• Prawie 79 % studentów przyznaje się do Kościoła katolickiego, jednak niespełna 3 % deklaruje głęboką wiarę w Boga – wynika z badań przeprowadzonych przez Pawła Załęckiego z Uniwersytetu Mikołaja Kopernika w Toruniu. Zostały one zaprezentowane podczas sympozjum „Religijność i Kościół w badaniach i teoriach socjologicznych», które odbyło się 26 i 27 czerwca w Łowiczu. Jedna czwarta studentów praktykuje swą wiarę regularnie, zaś prawie 31% nieregularnie. Jako wierzących-niepraktykujących określa się niewiele ponad 15% studentów, a ponad 9,5% deklaruje brak wiary religijnej.

# „Pastores" – pismo poświęcone formacji kapłańskiej

W Polsce ukazał się pierwszy numer kwartalnika „Pastores" poświęconego formacji kapłańskiej. Jak podkreśla redaktor naczelny, znany rekolekcjonista i kierownik duchowy, o. Józef Augustyn SJ, pismo chce inspirować księży i alumnów do stałej formacji duchowej, jak również do pogłębiania integralnie z nią związanej formacji ludzkiej.

Nie zamierza ono promować jakiejś jednej formy duchowości, lecz będzie otwarte na „wszelkie dary i charyzmaty, jakimi Duch Święty obdarza Kościół dla dobra wszystkich". Patronat nad periodykiem sprawuje Komisja Episkopatu Polski ds. Duchowieństwa.

Choć pismo adresowane jest w zasadzie do księży i alumnów, to jednak teksty w nim publikowane mogą służyć wszystkim osobom konsekrowanym, szczególnie siostrom zakonnym. Mogą też pomóc ludziom świeckim prowadzącym wspólnie z księżmi pracę ewangelizacyjną w ruchach czy parafiach, w zrozumieniu tożsamości kapłana i uwrażliwieniu na jego problemy. Także osoby zawodowo zajmujące się Kościołem, np. dziennikarze, mogą pogłębić swą wiedzę na jego temat poprzez czytanie „Pastores". Zamieszczane w piśmie modlitwy i medytacje, a także refleksje nt. nauczania Magisterium Kościoła, są potraktowane w sposób na tyle „pojemny", że ich adresatami nie są jedynie duchowni.

Pierwszy numer „Pastores", dedykowany Ojcu Świętemu Janowi Pawłowi II z okazji dwudziestolecia jego pontyfikatu, poświęcony jest tematowi „Być księdzem, być pasterzem". O naturze kapłaństwa pisze kard. Joseph Ratzinger, ks. Jan Twardowski dzieli się swym doświadczeniem życia „chwilą konsekracji", ks. Edward Staniek odnosi swe rozważania o tożsamości księdza do kapłańskiej codzienności, zaś ks. Zdzisław Kroplewski rozpatruje problem tożsamości z punktu widzenia psychologicznego i duchowego, dotykając m.in. rozziewu między ideałem kapłańskim a rzeczywistością. Oprócz artykułów i rozmów (w tym numerze z bp. Andrzejem Suskim i ks. Janem Zieją), przedstawiane są wyjątki z pism Ojców Kościoła, rozważania nt. nauczania Jan Pawła II (cytując m.in. słynną wypowiedź Papieża z Ars: „Nie jesteśmy funkcjonariuszami"), świadectwa, propozycje lektur. Niezwykle ciekawie zapowiada się dział dotyczący modlitwy kapłanów. W pierwszym numerze piszą o niej o. Józef Augustyn SI, ks. Józef Naumowicz i bp Edward Dajczak.

W następnych numerach przewidywane jest poruszenie sprawy ojcostwa duchowego, życia duchowego kapłanów (ze szczególnym uwzględnieniem sakramentów), sumienia, miłości i celibatu.

# Вольнае грамадства і Касцёл у трэцім тысячагоддзі

З 1 да 17 ліпеня ў Кракаве ў дамініканскам кляштары (прыяраце) працавала летняя школа «Вольнае грамадства і трэцяе тысячагоддзе», арганізаваная кракаўскім каталіцкім інстытутам «Tertio Millennio». У яе рабоце прынялі ўдзел маладыя людзі з ЗША, Мексікі, Польшчы, Літвы, Славакіі, Украіны і Беларусі. Нашу краіну прадстаўлялі Антаніна Ваўчок, адказная за рух «Жывы ружанец» на Беларусі, і аўтар гэтых радкоў.

Мэтай школы было пазнаёміць слухачоў з сучаснымі сацыяльнымі поглядамі Касцёла. Сярод выкладчыкаў з ЗША і Польшчы быў знакаміты Майкл Новак, прызнаны навуковец у сферы грамадска-палітычных даследванняў, аўтар больш чым 20-ці кніг (на Беларусі ён вядомы як аўтар кнігі «Дух дэмакратычнага капіталізму»). На занятках падрабязна разглядаліся такія тэмы, як сацыялізм і капіталізм, дэмакратыя і лібералізм, вольная асоба ў вольным грамадстве. Узнімаліся таксама праблемы абортаў, эўтаназіі, гомасексуалізму. На ўсе гэтыя пытанні Касцёл мае свае погляды, якія выкладзены ў каталіцкім сацыяльным вучэнні, што ў сваю чаргу грунтуецца на Божым Слове.

Папа Леў XIII у сваёй энцыкліцы «Rerum novarum» (1891г.) сцвярджаў, што Касцёл павінен займацца справамі грамадства, бо гэта з'яўляецца непасрэдным абвяшчэннем Евангелля.

*Андрэй Буйніч*

## wiadomości

• Od kilku tygodni działa ogólnopolska sieć rozgłośni katolickich „PLUS", powołana decyzją Konferencji Episkopatu Polski. „PLUS" chce z pozycji kościelnych, w atrakcyjnej formie i na najwyższym poziomie warsztatowym, przekazywać bieżące informacje, a także nadawać programy konkurencyjne w swej formie i treści wobec stacji prywatnych. Choć spółka ma charakter komercyjny, to jednak głównym celem jej działalności jest ewangelizacja. Nie chodzi jednak wyłącznie o tworzenie programów o charakterze duszpasterskim, lecz ukazanie słuchaczowi całej skomplikowanej rzeczywistości postrzeganej oczami chrześcijanina. Audycji "PLUSA" można słuchać wyłącznie na częstotliwościach rozgłośni diecezjalnych.

• Katolicki tygodnik "Gość Niedzielny" osiąga nakład bliski 200 tyś. egzemplarzy, ostatni numer miał nakład prawie 183 tyś., zaś wydania świąteczne dochodzą do 250 tyś. Dane te kontroluje Związek Kontroli Dystrybucji Prasy. Zwroty – według informacji redakcji – nie przekraczają 10 %. „Gość Niedzielny» ma wydanie ogólnopolskie (25 tyś. egz.) oraz kilka wydań regionalnych.

• Patriarcha ekumeniczny Konstantynopola, Jego Świątobliwość Bartłomiej I złoży w dniach od 10 do 16 października br. swoją pierwszą wizytę w Polsce. Patriarcha uznawany jest za honorowego zwierzchnika światowego prawosławia, choć nie ma władzy jurysdykcyjnej nad poszczególnymi Kościołami prawosławnymi. Do Polski zaprosił Bartłomieja I metropolita Sawa, zwierzchnik Polskiego Autokefalicznego Kościoła Prawosławnego, który w dniach 23-28 lipca przebywał z wizytą oficjalną u patriarchy Konstantynopola.

РАСІЯ

## Святары і казакі супраць пабудовы касцёла

Праваслаўныя святары і казакі з Валгадонска запатрабавалі ад мэра горада перагледзіць дазвол на будаўніцтва касцёла. Аўтары патрабавання – духавенства Валгадонскага благачыння (дэканату) і мясцовая рада атаманаў – абгрунтавалі сваё патрабаванне небяспекай міжканфесійных канфліктаў у горадзе. Яны сцвярджаюць, што, дазваляючы будаваць каталіцкую святыню "на Святой Праваслаўнай данской зямлі", мэр спрычыняецца да "развіцця ў горадзе разнастайных сектаў". У сваю чаргу мэр Валгадонску С.Гарбуноў нагадаў, што расійскае заканадаўства забараняе абмяжоўваць правы грамадзянаў па прычыне нацыянальнай альбо рэлігійнай прыналежнасці. "Мне вельмі прыкра, што менавіта праваслаўнае духавенства ўзначаліла антыканстытуцыйную акцыю, якая мае на мэце абмежаванне правоў часткі жыхароў горада", – сказаў мэр.

# Кнігі гараць і цяпер

Сусветныя інфармацыйныя агенцтвы апісалі як сенсацыю здарэнне, пра якое першай паведаміла маскоўская "Независимая газета". На пачатку мая ў Екацерынбургу па загаду праваслаўнага біскупа Нікана былі спалены некаторыя кнігі з бібліятэкі мясцовай семінарыі. У полымі загінулі працы "мадэрнісцкіх" праваслаўных багасловаў – святароў Аляксандра Меня, Іаана Мейендорфа і Аляксандра Шмемана, багаслова Нікалая Афанасьева.

Пытанне аб рэлігійнай літаратуры папярэдне разглядала біскупская рада. Духавенства прыняла рашэнне "ачысціць" бібліятэку семінарыі ад кніг узгаданых святароў, прызнаўшы іх "ерэтычнымі". Трох святароў, западозраных у сімпатыі да крамольных багасловаў, прымусілі пакаяцца (толькі адзін з іх не згадзіўся).

З кніг, пропаведзяў і лекцый а.Аляксандра Меня, інтэлігентнага і глыбока духоўнага святара, чалавека энцыклапедычных ведаў, пачынаўся шлях да Бога многіх людзей з былога СССР. Яго творы шмат гадоў друкаваліся на грошы католікаў у далёкай Бельгіі, потым іх патаемна, з вялікай рызыкай перапраўлялі ў краіну Саветаў. У 1990г. святар быў забіты.

Айцы Іаан Мейендорф і Аляксандр Шмеман – знакамітыя праваслаўныя багасловы, заснавальнікі Свята-Уладзімірскай семінарыі ў Нью-Йорку.

Кнігі ў Екацерынбургу гарэлі не ў першы раз. Епархіяльны цэнзар а.Аўраам некалькі гадоў таму паклаў у іх стос творы рускага філосафа Нікалая Бярдзяева. Здарэнне ў Екацерынбургу – толькі адно з шэрагу падобных. У мінулым годзе ў адным з падмаскоўных мястэчкаў па ініцыятыве мясцовага бацюшкі згарэлі ў кацельнай сотні Біблій і "Дзіцячых біблій", надрукаваных пратэстантамі і падораных школьнай бібліятэцы. "Скандал у Екацерынбургу трэба было чакаць, – піша "Независимая газета". – Калі б ён не здарыўся тут, дык мог бы здарыцца, напрыклад, у Томску, дзе новапрызначаны біскуп пачаў служэнне з закрыцця праваслаўных школаў".

***Алесь Нешчарда***

КОРАТКА

• Прэзідэнт Літвы Валдас Адамкус запрасіў Яна Паўла II наведаць з візітам Літву. Улады краіны спадзяюцца, што Папа зможа наведаць гэтую краіну ў сувязі з прыездам у суседнюю Польшчу ў 1999г.

• Расійскія ўлады змянілі правілы побыту замежных святароў на тэрыторыі краіны. Асобы, якія накіроўваюцца ў Расію з рэлігійнымі, харытатыўнымі альбо гуманітарнымі мэтамі, змогуць атрымаць цяпер візу толькі на тры месяцы, а потым павінны пакінуць краіну, каб мець магчымасць прэтэндаваць на новы дазвол. У Еўрапейскай частцы Расіі цяпер працуе 116 святароў, з іх каля 60% – грамадзяне Польшчы.

## Святой памяці айца Яна Матусевіча

2 верасня на 51-м годзе жыцця ў выніку хваробы памёр дэкан Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы протапрасвітар Ян Матусевіч.

Дзякуючы бацькам і сваякам, у дзяцінстве будучы святар атрымаў рэлігійнае выхаванне, пасля заканчэння школы вучыўся ў тэатральна-мастацкім інстытуце.

Шлях да святарства выдаўся незвычайна складаным: улады прыкладалі намаганні, каб юнак з вышэйшай адукацыяй не здолеў паступіць у каталіцкую семінарыю. Кіруючыся парадай аднаго з літоўскіх святароў, ён паехаў у Расію, каб стаць спачатку святаром у Праваслаўнай Царкве. Гэта стала магчымым у 1974г.

У 1979г. ён выехаў у Польшчу, дзе нарэшце змог споўніць сваё жаданне быць каталіцкім святаром. Вярнуўшыся на Беларусь, 10 гадоў а.Ян служыў пробашчам парафіі ў вёсцы Баруны Гродзенскай вобласці.

У канцы 80-х – пачатку 90-х гадоў а.Ян быў адным з актыўных удзельнікаў нацыянальнага адраджэння. Пасля а.Уладзіслава Чарняўскага ён быў другім святаром у пасляваеннай Беларусі, які пачаў служыць Св.Імшу на роднай мове.

А.Ян адгукнуўся на жаданне невялікай групы вернікаў адрадзіць знішчаную на Беларусі паўтары стагоддзі таму Грэка-Каталіцкую Царкву. У гэтай нялёгкай працы святар змог самарэалізавацца да канца. Ён узначаліў парафію ў Мінску, у 1991г. быў прыняты пад юрысдыкцыю ўкраінскага Івана-Франкоўскага біскупа, а праз два гады прызначаны кіраўніком дэканата на Беларусі. Гэтае прызначэнне ў 1994г. пацвердзіла Апостальская Сталіца.

Слабое здароўе пастаянна давала знаць пра сябе, але нават пры гэтым а.Ян заставаўся дзейсным пастырам, а таксама ўдзельнікам розных рэлігійных і грамадскіх аб'яднанняў. Спаўняючы сваё асаблівае пакліканне уніяцкага святара, ён імкнуўся паглыбляць кантакты і супрацоўніцтва хрысціянскіх абшчынаў. Удзел у грамадскіх (перадусім нацыянальна-асветніцкіх) арганізацыях а.Ян разглядаў як сваю ўласную місію ўмацавання хрысціянскага фундаменту беларускага народу, пропаведзі Хрыста ў асяроддзі інтэлігенцыі. Адначасна ён быў верны апостальскаму духу несці Евангелле кожнаму чалавеку. Сацыяльныя і нацыянальныя пытанні заўсёды ставіў на другі план, калі гаворка ішла пра збаўленне душаў.

Пахаванне а.Яна Матусевіча адбылося 5 верасня. Яго цела спачыла на Кальварыйскіх могілках у Мінску.

### КОРАТКА

• Ад 1991г. у дзяржаўных органах Расіі зарэгістравана каля 13тыс. сектаў і рэлігійных рухаў. Кіраўнік арганізацыі дапамогі ахвярам сектаў С.Раманюк лічыць, што колькасць членаў сектаў вымяраецца некалькімі мільёнамі. На яе думку, духоўнае запусценне з'яўляецца галоўнай прычынай такога бурнага пашырэння сектаў у Расіі.

• Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч пасвяціў на біскупа кс.Клеменса Рыкеля, якога Папа намінаваў дапаможным біскупам для Расіі. Урачыстасць адбылася ў горадзе Маркс (Саратаўская вобл.), дзе новы біскуп, які сам паходзіць з Германіі, у апошні час быў пробашчам. Рэзідэнцыяй новапасвечанага дапаможнага біскупа для Еўрапейскай часткі Расіі будзе Саратаў.

• У катэдры ўкраінскага горада Камянец-Падольскі адбылася кансэкрацыя новага біскупа Максіміліяна Леона Дубраўскага. Айцец Дубраўскі, бернардын, дагэтуль быў кіраўніком кустодыі св.Міхала Арханёла на Украіне.

• У Вільні адбылася сустрэча каталіцкіх біскупаў прыбалтыйскіх краінаў. У ёй удзельнічалі 12 іерархаў з Літвы, 4 з Латвіі, апостальскі адміністратар Эстоніі, а таксама арцыбіскуп Эрвін Эндэр, апостальскі нунцый у гэтых трох краінах. Падчас сустрэчы абмяркоўвалася падрыхтоўка да юбілею 2000-годдзя хрысціянства.

• Маскоўская каталіцкая тэалагічная калегія імя св.Тамаша Аквінскага выдала кнігу Яна Паўла II "Веру ў Бога Айца Усемагутнага і Творцу", якая стане першым з чатырох тамоў збору катэхезаў Папы перыяду 1994-1996гг.

• У Маскве пачаў працу каталіцкі шпіталь для дзяцей, будаўніцтва якога фінансавалі нямецкія католікі. "Гэты шпіталь не павінен служыць празелітызму, але быць сведчаннем шчырай, братэрскай любові ўсіх людзей", – сказаў падчас урачыстага адкрыцця кардынал Ф'ёрэнцо Анджэліні, былы кіраўнік Папскай рады душпастырства службы аховы здароўя.

# *“МАГУТНЫ БОЖА” – беларускае радыё ў Пецярбургу*

Маскоўскі каталіцкі штотыднёвік “Свет Евангелия” апублікаваў матэрыял пра беларускамоўныя перадачы на хвалях пецярбургскай FM-радыёстанцыі “Радыё Марыя”. Аўтар артыкула, студэнт Пецярбургскага універсітэта Яраслаў Крывы, піша, што праграма “Магутны Божа” транслюецца ўжо амаль год. Спачатку гэта былі пятнаццаціхвілінныя штотыднёвыя выпускі, у якіх можна было пачуць тэкст нядзельнага Евангелля і кароткі каментар да яго. Тэлефанаванні ўдзячных слухачоў пераканалі аўтараў перадачы ў тым, што беларусы ў Пецярбургу прагнуць чуць пра Хрыста на роднай мове.

“Калі я ўпершыню пачуў праграму “Магутны Божа” на беларускай мове, пачуў словы малітвы, якія на заканчэнне праграмы чыталі семінарысты, – гаворыць спявак Лявон Габрысёнак, – сэрца ўскалыхнулася: значыць можна праслаўляць Бога на роднай мове, а праз тое ўспрыняць Яго яшчэ бліжэй”.

Аўтар артыкула піша, што лёсы пецярбургскіх, як і ўсіх расійскіх беларусаў, вельмі розныя: некаторыя з дзяцінства выхоўваліся ў веры, некаторыя – атэістамі, іншыя згубілі веру на цяжкіх дарогах жыцця. Для многіх з іх словы Хрыста, пачутыя па радыё на роднай мове, сталі той іскрай, якая зможа распаліць веру і ўмацаваць яе ў сэрцах гэтых людзей.

“Я працую выкладчыцай рэлігіі ў парафіі Лурдскай Божай Маці, – кажа Тэрэза Шырма, – сама я з Гродзенскай вобласці, а тут, у Санкт-Пецярбургу, ужо дзесяты год. З дзяцінства бацькі выхоўвалі мяне ў духу любові да Касцёла, тым самым робячы маю веру вытрывалай і моцнай. За той час, што жыву ў гэтым горадзе, я ўжо прызвычаілася маліцца ў касцёле па-руску – гэта таксама стала маім, але роднае слова заўсёды бліжэй, да яго больш прывязалася сэрца”. Тэрэза Шырма пачала весці літаратурны раздзел праграмы, у якім можна пачуць вершы, прозу, вытрымкі з кніг хрысціянскіх аўтараў, якія выдадзены на Беларусі.

Дзякуючы Алесю Гусеву ў беларускіх радыёперадачах з'явілася шмат хрысціянскай музыкі, як традыцыйнай, так і сучаснай. Слухачы “Магутнага Божа” могуць таксама рэгулярна чуць весткі пра рэлігійнае жыццё на бацькаўшчыне, глыбей спасцігаць гісторыю Касцёла, знаёміцца з цікавымі суразмоўцамі.

Цяпер беларуская праграма выходзіць у эфір у кожную суботу ўвечары і паўтараецца на наступны дзень. Таксама ў Пецярбургу ў Катэдральным касцёле рэгулярна адпраўляецца Св.Імша па-беларуску.

Прыемна і радасна за нашых землякоў у паўночнай расійскай сталіцы. Тым больш, што католікі на Беларусі дагэтуль не маюць свайго радыё.

***Н. А.***

### БЕЛАРУСЬ

**Зарэгістраваны грэка-каталіцкія парафіі на Беларусі**

У канцы чэрвеня на Беларусі былі зарэгістраваныя дзве новыя грэка-каталіцкія парафіі – святых Кірылы і Мятода ў Баранавічах і Жыровіцкай іконы Божай Маці ў Івацэвічах (Брэсцкая вобласць). Рэгулярныя каталіцкія богаслужэнні ў візантыйскім абрадзе ў гэтых гарадах распачаліся яшчэ ўвосень 1996 года па ініцыятыве а.Ігара Кандрацьева з Брэста, тады ж у Івацэвічах з'явілася першая капліца. Увесь гэты час парафіі чакалі рэгістрацыі і існавалі амаль што ў падполлі.

***А. С.***

# Святыні вяртаюцца да паўнавартаснага жыцця



Касцёл у Лельчыцах Фота Ю.Лукашэвіча.

14 жніўня з удзелам кардынала Казіміра Свёнтка адбылася ўрачыстая рэкансэкрацыя касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны ў **Пружанах** (Брэсцкая вобл.). Веруючым спатрэбілася пяць гадоў, каб вярнуць да паўнавартаснага жыцця святыню, перабленую некалі на дом сацыялістычнай культуры. Пробашчам у Пружанскай парафіі з'яўляецца кс.Эдвард Лоек СМ.



Падчас рэкансэкрацыі касцёла ў Пружанах. Фота Ю.Лукашэвіча.

Дарэчы, менавіта ў Пружанскім касцёле ў 1944г. супрацоўнікамі НКВД быў арыштаваны і высланы на 10 гадоў катаргі ў Сібір вікарый кс.Казімір Свёнтэк, цяперашні кардынал.

4 верасня было свята ў **Лельчыцкай парафіі** Найсвяцейшага Сэрца Хрыста і Фацімскай Марыі Панны. Кардынал Казімір Свёнтэк у гэты дзень рэкансэкраваў мясцовы новапабудаваны касцёл. Пляцоўка пад будаўніцтва была выдзелена на месцы ранейшага храма яшчэ ў 1990г. Вялікую дапамогу ў аднаўленні святыні аказалі польскія вернікі з Бялэй Падляскі.

Доўгія гады беларускія вернікі ў **Вільні** намагалася арганізаваць уласную парафію. Сёлета для патрэбаў нашых суродзічаў у літоўскай сталіцы перададзены касцёл св.Барталамея, які знаходзіцца ў прадмесці Ужупіс (Зарэчча) і сваю гісторыю вядзе з XVIIст.

На працягу чатырох месяцаў рэктар гэтага касцёла кс.Ян Шуткевіч разам з вернікамі служыў Св.Імшу пад мурамі храма, пакуль яго нарэшце не пакінула майстэрня. 30 жніўня адбылася ўрачыстая рэкансэкрацыя вернутай святыні. Яе правёў Віленскі арцыбіскуп Аўдрыс Бачкіс.

Касцёл будзе мець статус рэктаральнага, ён не будзе належаць ніводнай з парафій. Але гэта не перашкодзіць нашым суродзічам чуць Слова Божае на роднае мове.



Вільня, касцёл св.Барталамея. Фота А.Кляшчука.

*і.і.*

# Памяць аб праведніку будзе вечнай



31 мая адбылося царкоўнае праслаўленне новага праваслаўнага святога – праведнага Іаана Кармянскага. Глыбока пабожны, вясковы "благадатны бацюшка", сапраўдны пастыр духоўнага статку, быў надзелены ласкай лячэння духоўных і цялесных хваробаў не толькі пры жыцці, але і пасля смерці – такім малюе яго жыццярыс.

Слуга Божы Ян Гашкевіч нарадзіўся ў 1837г. у мястэчку Стрэшын Рагачоўскага павету ў сям'і святара і з дзяцінства выхоўваўся ля алтара Панскага. Закончыў духоўную семінарыю, ажаніўся, атрымаў сан святара і ўрэшце стаў настаяцелем вясковай парафіі. У бацюшкі нарадзілася сямёра дзяцей, чацвёра з якіх прысвяцілі сябе служэнню Богу. У 1876г. яго перавялі ў храм Міколы-Цудатворцы ў вёсцы Агародня Гомельскага павету. Імкнучыся да дасканаласці хрысціянскага жыцця, айцец Ян жыў у нястомнай працы і малітве. Ён дбаў пра царкву, прапаведваў слова Божае, заклікаў да пакаяння, прадказваў, што будучае пакаленне ўбачыць у храмах агіду спустошэння. Бачачы наступ вялікай духоўнай багны, куды апускалася Расія, ён бяссоннымі начамі маліў Бога за людзей, якія пральюць шмат крыві, разбураць цэрквы і, апанаваныя нячыстым, "скакаць па нас будуць".

Айцец Ян, які быў вялікім малельнікам, асабліва практыкаваў Ісусаву малітву. Пан Бог даў яму таксама ласку выганяць дэманаў.

Слуга Божы ціха памёр увосень 1917г. Прадказанні старца споўніліся: бязбожнікі зруйнавалі царкву, каля якой ён быў пахаваны і зрабілі на яе месцы танцпляцоўку і футбольнае поле. "Будуць скакаць па мне, ды труна моцная будзе", – казаў а.Ян. Астанкі праведніка былі знойдзеныя ў 1991г. і перанесеныя ў царкву Пакрова Найсвяцейшай Багародзіцы ў в.Карма Добрушскага раёна.

Шматлікія цуды, аздараўленні, якія адбываюцца і ў наш час праз заступніцтва праведнага Іаана Кармянскага, пацвярджаюць моц ягонай малітвы. Напрыканцы стагоддзя Пан Бог падараваў нашаму народу яшчэ аднаго заступніка і цудатворцу. Ягонае аблічча зззяе святлом непадзельнага хітону Хрыстовага – Святога Касцёла. Будзем спадзявацца, што гэты святы не стане аб'ектам палітычных і антыкаталіцкіх спекуляцый, і Пан Бог дасць усім хрысціянам ласку сапраўднай і шчырай любові адзін да аднаго.

*Аляксандр Солад*

# "Наша вера" – часопіс, які варта чытаць




*Гістарычныя матэрыялы склалі большую частку другога сёлетняга нумару часопіса "Наша вера", які нядаўна выйшаў з друку. Адразу хочацца адзначыць працу яго аўтараў, якія здолелі сумясціць папулярна-публіцыстычны стыль тэкстаў з навуковай дакладнасцю.*

Цэнтральная тэма нумару – Нясвіж. Яго лёсу і лёсу двух храмаў горада – езуіцкага і бенедыктынскага касцёлаў – прысвечаныя матэрыялы Тамары Габрусь і Аляксандра Ярашэвіча.

Тэма хрысціянскага служэння яднае некалькі публікацыяў: працяг кнігі Яна Паўла II "Дар і таямніца", успаміны марыяніна кс. Францішка Апячонка пра сустрэчу выхаванцаў знакамітай Друйскай гімназіі і падарожныя нататкі з Магілёўшчыны Ірыны Жарнасек. Тут жа трэба адзначыць і надзвычай цікавы нарыс Уладзіміра Ляхоўскага пра жыццёвы і творчы шлях Лявона Вітан-Дубейкаўскага – вядомага грамадскага дзеяча 20-30-х гадоў, таленавітага архітэктара, аднаго з пачынальнікаў сучаснай нацыянальнай дойлідскай школы. Гэты чалавек перажыў поспехі і ўзлёты, быў шанаваны іншымі, але ўжо пры жыцці яму давялося бачыць, як рушацца яго мары, марнуюцца ідэі, прафануюцца ідэалы, здраджваюць паплечнікі і сябры. Ён застаўся хрысціянінам да канца і да канца змагаўся, кожны яго ўчынак быў натхнёны жаданнем служыць Богу і Бацькаўшчыне. Несумненна, што жыццё Л.Вітан-Дубейкаўскага – выдатны прыклад для сучаснай нацыянальнай інтэлігенцыі.

У новым нумары часопіса варта звярнуць увагу на фрагменты ўспамінаў Пятра Чарэвіна, паплечніка віленскага генерал-губернатара Мураўёва і непасрэднага ўдзельніка задушэння паўстання 1863-64 гг., а таксама новай хвалі рэпрэсій расійскіх уладаў супраць Касцёла. Успамінам папярэднічае цікавы ўступны артыкул Уладзіміра Дыдзіка.

Спробы знайсці ўзаемасувязь паміж канфесійнай і нацыянальнай свядомасцю беларускага этнасу ўжо рабіліся неаднойчы. Але ў шэрагу падобных матэрыялаў артыкул вядомага беларускага гісторыка з Варшавы Юрыя Туронка "Канфесійныя трансфармацыі на Беларусі і нацыянальная самасвядомасць" вызначаецца канцэптуальнасцю і навізной. Аўтару, відавочна, малацікавыя разважанні на ўзроўні сцвярджэнняў: "Касцёл – паланізацыя, Царква – русіфікацыя, унія – нацыянальная рэлігія і г.д." Аналізуючы вынікі даследванняў, што датычаць канфесійнай структуры беларускай супольнасці ў розныя перыяды, супастаўляючы іх з этнічнымі працэсамі на тэрыторыі Беларусі, Ю.Туронак спрабуе знайсці тлумачэнне драматычнаму выбару, які рабілі беларусы і ў мінулым, і ў нашым стагоддзі, вызначыць ступень залежнасці гэтага выбару ад рэлігійнага светапогляду людзей. Цікава і нетрадыцыйна гучаць высновы, якія робіць аўтар у сваім артыкуле.

Літаратурны раздзел нумара знаёміць з вялікай падборкай вершаў знакамітай паэткі з Гродна Данута Бічэль, а таксама архіўнымі знаходкамі – лістамі К.Сваяка да Я.Драздовіча, якія суправаджае артыкул Ірыны Багдановіч.

Вацлаў Пануцэвіч – імя малазнаёмае гісторыкам. Магчыма, яшчэ наперадзе час, калі даследванні нашага суродзіча (апошнія дзесяцігоддзі свайго жыцця ён правёў у ЗША), будуць па-сапраўднаму прачытаны і ацэнены. У новым нумары "Нашай веры" апублікаваны пачатак артыкула Вацлава Пануцэвіча, які ўпершыню пабачыў свет у 1967г. Аўтар падвяргае сумненню аксіёму расійскай і савецка-беларускай гістарыяграфіі пра паланізацыю Беларусі як вынік пашырэння каталіцызму.

Публікацыі чакае надзвычай цікавая кніга "Крыжы Беларусі", падрыхтаваная знакамітым мастацтвазнаўцам і этнографам Міхасём Раманюком. Чытачы "Нашай веры" могуць пазнаёміцца з фрагментам гэтай працы і аўтарскімі фотаздымкамі крыжоў з розных рэгіёнаў нашага Краю.

Змястоўны нумар "Нашай веры" дапаўняюць працяг кнігі Эдварда Станека "Шэсць праўдаў веры", артыкулы Андрэя Шпунта пра нядаўна знойдзеныя невядомыя дагэтуль пячаткі першага біскупа Мінскай дыяцэзіі Я.І.Дадэркі (1798-1816) і Анатоля Грыцкевіча пра ўдзел духавенства ў нацыянальным Адраджэнні пачатку XX ст. Выдатныя фотаздымкі Нясвіжа, зробленыя Анатолем Клешчуком, годна ўпрыгожваюць гэты цікавы і варты прачытання нумар.




**Летнія канікулы, пра якія расказвае 2-і нумар часопіса *"Маленькі Рыцар Беззаганнай"* (яго выдае рэдакцыя часопіса "Ave Maria"), былі цудоўным часам для многіх чытачоў гэтага дзіцячага выдання. Узгадаць канікулы і працягнуць іх яшчэ крыху ва ўспамінах дапамогуць цікавыя рэпартажы, павучальныя апавяданні, вершы, займальныя крыжаванкі і рэбусы, цудоўныя ілюстрацыі.**

МАЛЕНЬКІ РЫЦАР – ДОБРЫ СЯБАР!!!

**Часопісы можна набыць у касцёлах краіны альбо замовіць у рэдакцыі (пл.Свабоды 9, 220030 Мінск) новыя і папярэднія нумары.**

**Каталіцкія навіны.** № 7-8/1998 (35-36) Выданне Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла.
Рэг. № 686. **Адрас рэдакцыі:** пл.Свабоды 9, 220030 Мінск. **Факс** (017) 226-90-92. **E-mail:** maria@maria.belpak.minsk.by.
Падпісана да друку 07.09.98. Фармат 62 1/8. Наклад 3000 экз. Зак.34. Надрукавана ПП В.Ю.А. Пасв. №836. Вул.Чкалава,14
Акрамя матэрыялаў уласных карэспандэнтаў у нумары выкарыстаны паведамленні замежных выданняў і агенцтва КАІ.